Siaržuk VITUŠKA
Pahonia
kliča
na prastor!

Star. 4

# РУНЬ

Беларуская газэта ў Вільні

Алег МІНКІН
Афрадыта
*Я пішу, як цьвікі*
*забіваю ў труну...*

Стар. 8

ISNN 1392-7671 № 65 23 сакавіка 2012 г.

## ДАСЛОЎНА

***Зварот да беларускага народу з нагоды Дня Волі-2012***

Дарагія Суродзічы!

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую Вас зь вялікім нацыянальным сьвятам, Днём Волі, калі наш народ пасьля доўгага прыгнёту абвясьціў сьвету, што ён хоча быць гаспадаром на сваёй зямлі. Здабылі мы незалежнасьць 25 сакавіка 1918 г. і зьберагылі дасюль ідэалы 25 сакавіка, нягледзячы на шматлікія перашкоды, таму што былі між намі героі, якія разумелі цану волі і бязьмежна любілі свой край і свой народ.

Гэтае маё Сакавіцкае прывітаньне хачу прысьвяціць аднаму з нашых сучасных герояў, над жыцьцём якога зьдзекуецца варожы рэжым — Сяргею Каваленку. Толькі ворагі не адчулі радасьці, калі ён ўзлез на калядную ялінку ў Віцебску з Бел-Чырвона-Белым Сьцягам у руках. Гэтыя ворагі стараюцца яго зьнішчыць.

Словы, якія Сяргей перадаў нам праз жонку Алену, застануцца ў сэрцы кожнага беларуса. Сяргей папрасіў, каб сьвяткавалі Дзень Волі з Бел-Чырвона-Белымі Сьцягамі ў руках. Гэта будзе падтрымкай і для яго. Ён заявіў, што дабрабыту ня можа быць без культуры, а падмуркам культуры зьяўляецца родная мова, і што трэба шанаваць свае нацыянальныя каштоўнасьці — гісторыю й мову, што мы самі — беларускі народ — уратуем сваю краіну, і толькі тады падтрымаюць нас іншыя краіны, і што толькі беларускі народ можа дапамагчы яму выйсьці з гэтага цяжкага стану.

Дарагія суродзічы, не расчаруйма героя! Ён верыць у нашую беларускасьць і ў нашую мужнасьць. Ён верыць у свой народ і гатовы аддаць сваё жыцьцё дзеля гэтае веры. Будзьма годнымі героя! Як напісаў Антось са Слуцку: наша чарга дзейнічаць! Кожны чым і як можа. Дзесяць мільёнаў галасоў не застануцца без адказу!

Дык памажы нам Божа! Памажы Божа Сяргею Каваленку! Жыве Беларусь!

*Івонка СУРВІЛЛА, Старшыня Рады БНР*

# Самае галоўнае сьвята

**Сьвята 25 Сакавіка — Дзень Волі й незалежнасьці, дзень абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі, сьвяткуецца беларусамі сьвету, і хоць усе ўлады — і БССР, і сучасная — яго не прызнаюць і замоўчваюць, сьвяткаваць забаронена, тым ня менш і грамадзяне Беларусі, і беларусы, раскіданыя па ўсім сьвеце, маюць надзею, што прыйдзе час і гэтая дата будзе самым галоўным сьвятам незалежнай і вольнай Бацькаўшчыны.**

У сувязі з гэтым днём хочацца ўзгадаць тых, хто рыхтаваў працаўнікоў для нашай вольнай Беларусі. Самай галоўнай кузьняй спэцыялістаў была Віленская Беларуская Гімназія. Яна працавала толькі 25 гадоў і была зачыненая ворагамі нашай самастойнасьці. Але гадунцы гімназіі панесьлі ідэі незалежнасьці й захоўваюць іх да сёньня.

Адной з такіх асобаў зьяўляецца вучань, настаўнік і дырэктар Віленскай Беларускай Гімназіі, які ў 30-я гг. выкладаў матэматыку, выхоўваў гімназістаў і ўзначальваў калектыў навучальнай установы — Барыс Уладзіміравіч Кіт. Узгадваем гэтае ймя ў сувязі з Днём Волі і днём народзінаў гэтага славутага чалавека, навукоўца й шчырага беларускага патрыёта. Дзень Волі і дзень народзінаў Барыса Ўладзіміравіча амаль супадаюць, і вельмі сымбалічна, што яны адбываюцца вясной, калі абуджаецца прырода і ўсё цягнецца да жыцьця, да аднаўленьня.

Барысу Ўладзіміравічу — чалавеку, як ён сам называе сябе, сьведку стагодзьдзя, што перажыў жахлівыя войны й крывавыя рэвалюцыі, якога лёс выгнаў з роднай зямлі на чужыну, дзе прыйшлося пачынаць жыцьцё з нуля, дзе трэба было набываць новыя прафэсыі, працаваць у розных галінах, каб утрымліваць сям'ю і рэалізаваць свой навуковы патэнцыял і, нягледзячы на гэтыя ўсе цяжкасьці, яму гэта ўдалося. На чужыне ён асягнуў самыя сучасныя навуковыя тэхналёгіі, стварыў сучасны від паліва для касьмічнае апаратуры. Усе гэтыя дасягненьні і адкрыцьці ў астранаўтыцы й касманаўтыцы былі добра ацэненыя ня толькі ЗША — краінай, што дала прытулак невядомай там ахвяры II Сусьветнай вайны, але й навуковай супольнасьцю сьвету.

Пасьля выхаду на пэнсію Барыс Уладзіміравіч працаваў выкладчыкам Мэрылэндзкага ўнівэрсытэту, выдаў падручнік па астранаўтыцы, шэраг артыкулаў.

І хоць шмат часу трэба было аддаваць навуковай дзейнасьці, ён яшчэ, невядома якімі высілкамі, займаўся грамадзкай справаю – згуртоўваў беларусаў, уладкоўваў на працу, падтрымліваў суродзічаў, гадаваў сыноў, якія атрымалі добрую адукацыю й пасады, і доўгія гады дапамагае беларусам на Бацькаўшчыне й па-за яе межамі ў выданьні кніг, вылучае сродкі на стварэньне музэю, ахвярам Чарнобыля і чыніць іншыя добрыя справы. Нягледзячы на паважны век, ён, як заўсёды, сочыць за навінамі, за друкам, асабліва яго цікавіць, што робіцца на Бацькаўшчыне.

Барыс Уладзіміравіч – чалавек надзвычайна высокай асабістай маралі, нацыянальнага гонару і духоўнай чысьціні. Ягоны нязломны аптымізм, працавітае й ахвярнае жыцьцё – добры прыклад для шмат каго і ў Беларусі, і ў замежжы.

Барыс Уладзіміравіч! Віншуем Вас з Днём Волі й сто другім днём народзінаў! Добрага Вам самаадчуваньня, здароўя й вытрывaласьці!

*З павагаю, рэдакцыя газэты "Рунь", віленскія беларусы*

# Vialikaje kniastva Litoŭskaje vs partyzanskaja respublika

**Apošnim časam iznoŭ aktualnaj stała palemika pra spadčynu Vialikaha kniastva Litoŭskaha. U jaje rečyšču nadoječy prajšła ŭžo ažno šostaja sustreča historykaŭ z roznych krainaŭ z kolišnich vialikakniaskich abšaraŭ.**

Hetym razam ŭ Zali senackich pasiedžańniaŭ Vilenskaha ŭniversytetu navukoŭcy ź Biełarusi, Litvy j Polšču abmiarkoŭvali supiarečlivaść suisnavańnia ŭ kulturnaj pamiaci biełarusaŭ dvuch nacyjanalnych topasaŭ, to bok kulturnych vobrazaŭ – VKŁ i partyzanskaj respubliki. Udzielniki dyskusii sprabavali vyśvietlić, u čym unikalnaść biełaruskaj pamiaci, u čym jaje padabienstva z kulturaju pamiaci sučasnaj Litvy. Razhladajučy evalucyju pohladaŭ na historyju VKŁ, Alena Tempier, navukovy supracoŭnik Centru eŭrapiejskich dośledaŭ u Lajpcyhu, nahadała, što adzin ź viadomych biełaruskich piśmieńnikaŭ-historykaŭ Mikoła Jermałovič apublikavaŭ knihu "Pa śladoch adnaho mitu", dzie abvierhnuŭ załučeńnie ŭ skład VKŁ Połackaha, Turaŭskaha j Pinskaha kniastvaŭ:

**– Zhodna ź Jermałovičam, starabiełaruskija kniazi zavajavali častku terytoryjaŭ VKŁ, dzie pierasiakalisia ŭładańni Turava-Pinskaha j Połackaha kniastvaŭ. U pracy historyka "Biełaruskaja dziaržava VKŁ" hetaja hipoteza abhruntoŭvajecca. Inšy nacyjanalny publicyst i filolah Ivan Savierčanka taksama razhledzieŭ hetaje ścvierdžańnie ŭ svaim artykule "VKŁ. Stanaŭleńnie dziaržavy" i zhadvaje pra hety peryjad u historyi "Našaj vialikaj dziaržavy". U postsaviecki peryjad, na chvali pierahladu historyi šmatlikija daśledčyki ścviardžali, što pravavaja systema VKŁ była adnoj z samych raźvitych u Eŭropie. Pobač z dośledami było apublikavana šmat navukovych i navukova-papularnych pracaŭ, aŭtary jakich zajmalisia palityčnymi vykazvańniami, što nia mieli pad saboju navukovaj asnovy.**



Udzielniki dyskusii razharnuli abmierkavańnie jašče adnoj važnaj dla biełaruskaj supolnaści temy partyzanskaj vajny ŭ Biełarusi. Uvahu navukoŭcaŭ pryciahnuła vyłučanaje mierkavańnie pra aktyŭnaje vykarystańnie partyzanskaha kulturnaha vobrazu aficyjnaj biełaruskaj prapahandaj, u toj čas jak vobraz VKŁ bolš važny dla apazycyi. Hetak, na dumku navukoŭcaŭ, było j za Savietami. Jak zaŭvažyŭ Alfredas Bumbłaŭskas, siabra Rady Instytutu historyi Litvy, doŭhi čas u savieckaj Litvie razumiełasia, što partyzanski mit zychodzić ad aficyjnaj ułady, a vialikakniaski – ad Narodnaha frontu, ad apazycyi.

Prarektar Eŭrapiejskaha humanitarnaha ŭniversytetu Alaksandar Kałbaska zajaviŭ:

**– Na stvareńnie mitu "Biełaruś partyzanskaja" dziesiacihodździami pracavała prapahanda. Usimi srodkami, va ŭsich formach. Ja ros u hetym asiarodku, pracujučy dyrektaram muzeju. Heta hłyboka ŭnutry bolšaści biełarusaŭ. Partyzanski j vialikalitoŭski mity ŭ biełaruskaj śviadomaści znachodziacca na adnym uzroŭni, jany navat nie kankurujuć mižsobku.**

U sučasnaj Biełarusi, paviedamiła Alena Tempier, Vialikaja Ajčynnaja vajna jak miesca pamiaci prysutničaje nia tolki na dziaržaŭnym uzroŭni, ale j źjaŭlajecca častkaju pryvatnaha žyćcia abyvatalaŭ. Pra heta śviedčyć, na dumku daśledčycy, tradycyja dabraachvotnaha ŭskładańnia kvietak da braterskich mahiłaŭ padčas zaklučeńnia ślubaŭ.

Jak zaznačyŭ biełaruski historyk Aleh Dziarnovič (***na fota***), pry źniešnim manalitnym i tryvałym fasadzie idealohii RB na samoj spravie sytuacyja nadzvyčaj plastyčnaja j ciakučaja. Palityčnyja lozunhi, jakija vykarystoŭvała apazycyja, pierachapili aficyjnyja ŭłady, padkarektavaŭšy, źmianiŭšy ich. Spadčyna VKŁ taksama trapiła ŭ arsenał uładaŭ RB.

Hipotezu pra pierajmańnie apazycyjnych idejaŭ uładami padtrymała j Alena Tempier:

**– Z hodu ŭ hod mianiajucca pazycyi. Toje, pra što my pisali piać hadoŭ tamu, stanovicca niesapraŭdnym. Na dadzieny momant urad pierajmaje pazycyi apazycyi. Navat aŭtarytarnyja režymy patrabujuć padtrymki naroda. Ułady bačać, što kult Siaredniaviečča dziejničaje na moładź, starejšaje pakaleńnie, i z hetych pierakanańniaŭ jany pierajmajuć śviet VKŁ. Hety kult adbirajecca ŭ apazycyi: ułada adbiraje jašče adzin kozyr, kab pryvabić nasielnictva da siabie.**

## Дарагія спакрэвічы!

Пятнаццаць гадоў таму пабачыў сьвет першы нумар нашае газэты. Стаўся гэты маленькі цуд дзякуючы руплівай працы сяброў беларускай суполкі, сярод якіх вылучаўся сваім імпэтам захавальнік агню віленскай беларушчыны Лявон Луцкевіч. Паводле сучасьнікаў, аднавіць выданьне беларускай прэсы ў літоўскай сталіцы было ягонаю запаветнаю мараю.

З тае пары мінулі ўжо тры пяцігодкі. Газэта зьмяняла сваё аблічча, склад аўтараў, тэматыку артыкулаў.

Насьпеў час для чарговых зьменаў.

Першую беларускую газэту на Віленшчыне – "Мужыцкую праўду" – ейны рэдактар Кастусь Каліноўскі друкаваў лацінкаю. Гэткім-жа альфабэтам карысталіся й пазьнейшыя пэрыядычныя віленскія й нетутэйшыя беларускія выданьні: і "Наша ніва", і "Гоман" і "Крыніца", і "Беларускі голас". Пасьля Другой сусьветнае вайны беларуская лацінка ў пэрыёдыцы сустракалася ўсё радзей і радзей.

На нашую думку, гэты хіб і перакос у бок кірыліцы варты выпраўленьня. Таму ў юбілейны год, зь юбілейнага нумару палову нашых матар'ялаў мы вырашылі на ўмовах экспэрымэнту друкаваць лацінскім пісьмом. Мажліва, у будучыні газэта "Рунь" пяройдзе на лацінку цалкам. Чакаем вашых водгукаў пра зручнасьць і мэтазгоднасьць гэткага нашага рашэньня.

З самым галоўным беларускім сьвятам вас, дарагія чытачы – з Днём Волі! Хай гэты дзень станецца для вас невычэрпнай крыніцай радасьці й забярэ з сабою ўвесь смутак і горыч штодзённасьці.

*Рэдакцыя газэты "Рунь"*

# Pa-nad žaleznymi zasłonami

Hazeta “Biełarus” vydajecca ŭžo šeśćdziesiat treci hod u ZŠA. Śviežy jaje numar za studzień 2012 h. pryjšoŭ u redakcyju “Runi” - № 588. Heta ŭražvaje - 588 numaroŭ, dzie adlustroŭvalisia roznyja padziei ŭ śviecie, u biełaruskich asiarodkach, jakija byli stvorany ŭ roznych krainach śvietu, u samoj Biełarusi. Škada, što samyja pieršyja cikavyja j paznavalnyja numary zastalisia nam niedasiahalnymi i nieviadomymi, bo žaleznaja zasłona zakryvała šlach usialakaj infarmacyi z-za miažy dla nas, byłych žycharoŭ Biełarusi, i kali ciapier hartaješ staronki starych vypuskaŭ “Biełarusa” 60-70 hh. minułaha stahodździa, jakich vielmi mała znajšłosia ŭ nas u Litvie (jany byli dasłany z asabistaha zboru sp. Michasiom Bielemukom), bačyš, jakoje źmiastoŭnaje žyćcio było ŭ našych suajčyńnikaŭ, jakija nia tolki zmahalisia za asabistaje vyžyvańnie, ale zhurtoŭvalisia, stvarali biełaruskija asiarodki j supołki, rupilisia pra kulturu, mastactva, navuku, budavali cerkvy, a hałoŭnaje — rabili ŭsio mahčymaje j niemahčymaje, kab danieści da ŭsiaho śvietu praŭdu pra svaju Baćkaŭščynu, pra jaje harotny los, jany maryli ŭbačyć jaje bahataj, Volnaj, Niezaležnaj.

Biełaruski aficyjny druk uvieś čas traktavaŭ biełarusaŭ zamiežža jak vorahaŭ savieckaj Biełarusi, jak zdradnikaŭ, palicajaŭ, paplečnikaŭ fašystaŭ. Na samoj spravie hetyja ludzi byli j jość sapraŭdnymi patryjotami svajoj Radzimy, jakija šmat rabili j robiać dla taho, kab nia źnikła Biełaruś z mapy śvietu, kab jana stała sapraŭdy niezaležnaj, kab nie była prahłynutaj “siabrami”- susiedziami z Zachadu i Ŭschodu, jakija ŭžo bolej za dva stahodździ ščerać svaje paščy ŭ bok Baćkaŭščyny. Hetyja “siabry” vyniščali miljonami našych bratoŭ, ździekvalisia z navuki j kultury, vyvozili ludziej u HUŁah. Ale nadzieja na lepšaje ŭzrastaje ŭ samoj Biełarusi i jaje padtrymoŭvajuć našyja suajčyńniki ŭ dalokim zamiežžy.

Siońnia my atrymlivajem hazetu “Biełarus”, jana daje nam raznastajnuju karysnuju j cikavuju infarmacyju. Mianiajucca redaktary hazety. Doŭhi čas jaje redahavaŭ sp. Marat Kłakocki, jaki j naładziŭ pierasyłku hazety da nas i nia tolki – dziakuj jamu za heta. Siońnia redahuje vydańnie sp-nia Hanna Surmač, dobra viadomaja dziajačka ŭ Biełarusi, a ciapier i za miažoj. Ale hazeta vychodzić jak zaŭsiody — pad kličam “Žyvie Biełaruś!”, i heta nas natchniaje. Vielmi chaciełasia, kab jaje čytali j na Baćkaŭščynie, jakaja ciapier, jak i ŭ minułym, adrezanaja ad śvietu.

Zyčym pośpiechu “Biełarusu” i plonu ŭ vašych namahańniach nieśui biełarusam śvietu idei niezaležnaści j adradžeńnia! Vinšujem redakcyju z našym najvialikšym śviatam — Dniom Voli!

*Z pašanaju, redakcyja hazety “Ruń”*




**Vydaviectva Eŭrapiejskaha humanitarnaha ŭniversytetu pry padtrymcy niamieckaha fondu Konrada Adenaŭera vypuściła ŭ śviet knihu palitolaha Ŭładzimira Roŭdy “Palityčnaja systema Respubliki Biełaruś”.**

U novym navučalnym dapamožniku razhladajecca evalucyja palityčnych instytutaŭ Biełarusi ad momantu dasiahniennia niezaležnaści; utrymlivajecca paraŭnalny analiz palityčnych pracesaŭ u Ajčynie i ŭ inšych postsavieckich krainach. Aŭtar knihi padrabiazna razhladaje atačeńnie systemy, evalucyju palityčnaha režymu, asablivasci palityčnaj kultury i sacyjalizacyi, i bieźlič inšych biełaruskich palitalahičnych prablemaŭ.

Na dumku vilenskaha palitolaha Artura Judzickaha, hetaje vydańnie nadzvyčaj aktualnaje:

**– Aŭtar piša nia toje, što sami pra siabie dumajuć palityčnyja aktory, jakija jany palityčnyja idealohii adstojvajuć, jakaja ichniaja značnaść u Biełarusi, a jon piša ŭ paraŭnańni ź inšymi krainami, ź inšymi partyjami, i tamu hetaja infarmacyja atrymlivajecca abjektyŭnaja. Dziakujučy fundataram, hetaja kniha raspaŭsiudžvajecca biaspłatna, ale ŭ jaje nievialički nakład. Pa zadumie aŭtaraŭ, kniha budzie nakiravanaja va ŭsie navučalnyja ŭstanovy Biełarusi, ale jość vialiki sumnieŭ, što jana budzie dastupnaja da studentaŭ, tamu što tam jość takija paityčnyja acenki, jakija nia vielmi padabajucca isnujučaj zaraz biełaruskaj uładzie.**



**U Vilni źjaviłasia aŭdyjoversija knihi Sieržuka Vituški “Dziń-dziliń: para hulać u kazki”. Sama kniha vyjšła ŭ śviet letaś u vydaviectvie Źmiciera Kołasa, a ciapier źjaviŭsia j aŭdyjodysk, na jakim źmieščanyja ahučanyja roznymi biełaruskimi znakamitaściami Vituškavy kazki.**

Prajekt składajecca z 12 kazak ŭ vykanańni viadomych u Biełarusi asobaŭ i pryśviačajecca ŭsim tym, chto vieryć u svaje siły, niezaležna ad uzrostu i abstavinaŭ. Pavodle muzyčnaha partału tuzin.fm, u prajekcie “Dziń-dziliń: para hulać u kazki” uziali ŭdzieł narodnaja artystka Biełarusi Zinaida Bandarenka, piśmieńniki Ŭładzimir Arłoŭ, Adam Hłobus, Andrej Chadanovič, tele- i radyjoviadučaja Tamara Lisickaja, aktorka Hanna Chitryk, ambasadar Švecyi ŭ Biełarusi Stefan Eryksan, śpievaki Lavon Volski, Źmicier Vajciuškievič, Aleh Chamienka, Aleś Kamocki, Siaržuk Sokałaŭ-Vojuš. Ideja prajektu naležyć historyku Siarhieju Chareŭskamu, jaki zadumaŭ zrabić aŭdyjopraciah vydadzienaj niadaŭna knihi Sieržuka Vituški ŭ azdableńni Michała Aniempadystava:

**– Letaś ździejśniłasia mara aŭtara, kali pabačyła śviet jaho kniha, jakaja stała pieramožcaj u naminacyi “Dziciačaja litaratura” na Radyjo Svaboda i zaniała pačesnuju pazycyju ŭ ahulnym rejtynhu biełaruskich navinak. Ale sam aŭtar, naš hieroj, nia zmoža jaje ŭbačyć. Tak skłaŭsia los, što praz chvarobu jon straciŭ zrok. Tamu znoŭ tałakoj, jak i ŭ kolišnija lehiendarnyja časy, my ździajśniajem jašče adzin cud — pieraŭvasablajem litary ŭ huki, stvaryŭšy hetuju hukavuju knihu kazak Vituški. Ciapier jaje zmoža pačuć i sam hieroj, i tysiačy inšych ludziej pa ŭsim śviecie.**

# Siaržuk VITUŠKA: Pahonia kliča na prastor!

**Žyćcio mianiajecca, i razam z žyćciom mianiajucca j simvały. Tamu ja chacieŭ-by z nahody śviata parazvažać pra dziaržaŭnyja, nacyjanalnyja, patryjatyčnyja simvały – ściah, hierb i himn.**

Hetyja simvały, jak i zvyčajnyja słovy, samyja pa sabie jašče mała što značać. Hałoŭnaje – intanacyja, intencyja j kantekst. Intencyja – heta značyć, ź jakoj metaj, ź jakimi dumkami my chočam užyvać toj ci inšy simvał; intanacyja - ź jakimi pačućciami chočam heta zrabić: paśmiajacca ci paściabacca, ci ŭračysta padkreślić vieličnaść, značnaść hetaha simvała; kantekst – u jakoj histaryčnaj sytuacyi, pobač z čym my ŭžyvajem hety simvał. Heta nadzvyčaj važna.

Voś uziać ściah, naprykład. Ściah biełaruski – bieł-čyrvona-biełу – nie adrazu staŭ takim, jakim sionńnia my jaho viedajem, lubim, uźnimajem, za jaki zmahajemsia. U Siaredniavieččy jon vyhladaŭ jak trochkutny ściah z haryzantalnym čyrvonym kryžom. Mienavita hetkija ściahi my bačym na słavutaj histaryčnaj karcinie “Bitva pad Voršaj”. Tam biełaruskija vajary trymajuć dzidy, a na hetych dzidach – voś hetkija ściažki, jakija nahadvajuć sionńiašnija skandynaŭskija ściahi z kryžami. Doŭhaja čyrvonaja pałasa ciahniecca praz uvieś biełу trochkutničak. Samy pieršy bieł-čyrvona-biełу ściah byŭ z čornymi stužačkami paabapał čyrvonaj pałasy, moža być, kab čysta hrafična, vizualna padkreślić kontur. Heta histaryčny fakt, što spačatku, u 1917 hodzie, naš ściah vyhladaŭ tak: biełу – potym cianiusieńkaja čornaja pałosačka – potym čyrvony – potym znoŭ čornaja pałosačka – potym znoŭ biełaje pałotnišča. Paśla hetyja čornyja stužački adpali, i ściah ciapier vyhladaje jak bieł-čyrvona-biełу. My ŭžo nie manarchija, my respublika, i tamu voś hetaja tradycyja francuskaha trykalora j lozunhu “Svaboda, roŭnaść i braterstva” zaklučajecca i ŭ koleravaj hamie našaha bieł-čyrvona-biełaha ściaha.

Adbyłasia evalucyja i ź hierbam. Vyjava hierbu časoŭ Połackaha kniastva, Vialikaha kniastva Litoŭskaha, Biełaruskaj Narodnaj Respubliki ŭvieś čas mianiałasia. Zastavaŭsia duch, sutnaść – zbrojny rycar na kani. Ale forma miača, uzbrajeńnia rycara, pastava kania ŭvieś čas mianialisia: to koń skakaŭ naŭskač, to



*Frahment karciny “Bitva pad Voršaj”*

stanaviŭsia na dyby. Heta narmalny j naturalny praces – mianiajucca dziaržavy, adpaviedna karektujucca j simvały. Ciapierašni nacyjanalny hierb “Pahonia” adroźnivajecca ad sučasnaha litoŭskaha dziaržaŭnaha hierbu. A, naprykład, haradzki hierb Biełastoka adroźnivajecca i ad biełaruskaha, i ad litoŭskaha dziaržaŭnych hierbaŭ, chacia sutnaść i nazva zastajecca taja samaja – “Pahonia”. Tak što źmieny ŭ simvałach adbyvajucca, chočam my taho ci nia chočam. Heta niepaźbiežna.

Mianie vielmi zachapiła dyskusija ŭ amerykanskim parlamencie pra ściah. Niekatoryja palityki prapanoŭvali pryniać papraŭku ŭ kanstytucyju, što nielha ździekvacca, nielha palić nacyjanalny ściah. A druhija zapiarečyli, što heta – abmiežavańnie svabody słova. Chto choča – chaj palić. “Jak tak?! – spačatku aburyŭsia ja. – Nacyjanalny simvał, śviatoje… Jak-ža hetak možna?”. A potym ja prasłuchaŭ usiu dyskusiju i pierakanaŭsia, što mieli racyju nieprychilniki kanstytucyjnaje papraŭki. My nie zabiaśpiečanyja ad niejkaha nierazumnaha čaławieka, jaki kali-niebudź spalić ci inakš źniavažyć ściah. Ale na kožny hetki fakt my vyjdziem z hetym ściaham na vulicy, i vyjdzie nas nie adzin miljon. I my musim być hatovyja žyćcio pakłaści za hety ściah, što Siarhiej Kavalenka sionńnia pakazvaje svaim prykładam.

Heta sprava honaru – uźniać svoj ściah nad svaim domam u dzień nacyjanalnaha śviata, mieć hety ściah u sercy. I voś hetaksama i z himnam, i z hierbam my pavinny dziejničać. Pry hetym treba razumieć usiu składanuju, dramatyčnuju historyju, jakaja staić za hetymi ściahami. Nu i što, što za Pahoniaj, i za himnam, i za ściaham byŭ epizod, jak lubiać kamunisty kryčać, što heta fašystoŭskija, kalabaracyjanisckija simvały. Bolš za miljon čaławiek zmahalisia sa Stalinym, z Savieckim Sajuzam u šerahach niamieckaj armii padčas apošniaj vajny. Jany zmahalisia pad svaim rasiejskim trykaloram. I sionńnia hety trykalor źjaŭlajecca dziaržaŭnym ściaham Rasii, i nichto nie havoryć, što heta – kryvavy ściah kalabaracyjanistaŭ. Tamu bieł-čyrvona-biełу ściah – heta ściah Biełaruskaj Narodnaj Respubliki, hierb “Pahonia” – hierb Połackaha kniastva, Vialikaha kniastva Litoŭskaha, Biełaruskaj Narodnaj Respubliki, niezaležnaj Respubliki Biełaruś.

Treba zaznačyć, što ŭ hetym artykule ja nazyvaju hetyja simvały – hierb, ściah i himn – dziaržaŭnymi, bo jany byli takimi, i ŭ časy Połackaha kniastva, i BNR, i RB. Sionńnia jany takimi nia jość. Ciapier jany źjaŭlajucca histaryčna nacyjanalnymi. Ale prystaŭka “eks” da ich, na maju dumku, nie dapasoŭvajecca.

Janka Kupała ŭ 1920 hodzie ŭ adnym sa svaich artykułaŭ razhladaŭ roznyja vieršy, u tym liku j svaje teksty, jak versii biełaruskaha nacyjanalnaha himnu. Pieršym hetakim zvańniem byŭ ušanavany vierš Janki Kupały

"A chto tam idzie?" z uračystaj melodyjaj. Biełaruskim himnam, biełaruskaj Marseljezaj nazyvali taki revalucyjny, kamunistyčny vierš Alaksandra Mikulčyka "Ad vieku my spali, i nas razbudzili". I "Pahoniu" Bahdanoviča śpiavali jak himn, na matyŭ Marseljezy, bo nie było adzinaj, ahulnapryniataj melodyi. Chtości prapanuje zrabić biełaruskim himnam vierš Natalli Arsieńnievaj "Mahutny Boža". Vydatny vierš, jaki, adnak, moža być tolki relihijnym himnam, nijak nia śvieckim, jaki pvaninie być prydatnym kožnamu hramadzianinu Biełarusi, niezaležna, ci jon chryścijanin, ci budyst, ci naohuł ateist. Tamu vierš Natalli Arsieńnievaj nia moža być dziaržaŭnym himnam.

Lena Hłahoŭskaja znajšła hazetu "Biełaruś" za 1919 hod, dzie byŭ apublikavany vierš Makara Kraŭcova zusim inšy, ź bieźličču drobnych źmienaŭ. Tam pišacca pra "biedny narod", a potym užo zamieniena na "volny narod". Ci heta sam Makar Kraŭcoŭ praviŭ, ci Chviedar Iljašević, pavodle versii Leny Hłahoŭskaj, ci inšyja litaratary ŭžo paśla vajny – ale fakt, što biełaruskija studenty Lublinskaha ŭniversitetu śpiavali hety himn užo ŭ padkarektavanym, šyroka viadomym varyjancie. Značycca, jon mianiaŭsia na praciahu historyčnaha šlachu, čamu-b jamu nie pamianiacca jašče raz? Heta taksama simvaličny tekst i simvaličnaja melodyja, i tut taksama mahčymyja i patrebnyja niekatoryja źmieny, na maju dumku. Šyroka viadomy vierš Makara Kraŭcova-Kościeviča "My vyjdziem ščylnymi radami…", viadomaja j melodyja Ŭładzimira Teraŭskaha – uračystaja melodyja, jakaja jakraz i nie patrabuje, na maju dumku, nijakich źmienaŭ. Vytrymanaja časam, sakralnaja melodyja. Ja katagaryčna suprać siońniašnich versijaŭ śpiavańnia himnu na inšy ład, jak, da prykładu, u słavutym muzyčnym albomie "Ja naradziŭsia tut". Tam aŭtary niepaznavalna źmianili melodyju, pastavili niejkuju cyhanska-małdavanskuju miašanku, absalutna niedarečnuju. Intanacyja, intencyja j kantekst tut absalutna niedarečnyja.

Ja prapanuju štoś zusim inšaje: melodyju pakinuć aryhinalnuju, uračystuju, Uładzimira Teraŭskaha, pakinuć duch Makara Kraŭcova ŭ tekście, ale troški jaho padkarektavać: zamiest piaci zvarotak pakinuć tolki try i vykanać niekatoryja praŭki ŭ samim tekście. Znoŭ-ža, paŭtaraju, jany nijak nie mianiajuć duchu j sutnaści vierša Makara Kraŭcova.

U hetym himnie, jak viadoma, vielmi ŭračysta, pryhoža spiavajecca pra bieł-čyrvona-biełу ściah. Ja prapanuju pobač zhadać i hierb "Pahonia": uvieści taki radok "Pahonia kliča na prastor!". Jak byccam-by my zasieli ŭ svaich bałotach-lasach, a Pahonia moža razharnucca, jana skača pa čystym, roŭnym poli, dzie ni ciesna, ni dušna, nie turma — Pahonia moža tolki na voli skakać. Voś jana, hetaja historyčnaja słaŭnaja Pahonia, i kliča nas, siońniašnich, na volny prastor.

Druhaja zamiena – palitkarektnaja. U aryhinale hučyć: "Naš biełaruski volny duch". Ja pakinuŭ-by tolki "volny duch". Čamu vyklučna biełaruski? Jon i žydoŭski, i tatarski, i chto tolki siońnia ŭ Biełarusi nie žyvie: i palaki, i ruskija, i armianie, i kitajcy chutka buduć žyć. Luby hramadzianin Biełarusi pavinien zaśpiavać hety himn jak svoj. Treba, kab tam śpiavałasia pra volny, demakratyčny duch i pra krainu Biełaruś jak naš supolny dom. A biełaruski duch my pakiniem užo ŭ muzei. Tady, u 1917-1918 hh., kali paŭstavała Biełaruskaja Respublika, kali my addzialalisia ad Polščy, ad Litvy, ad Rasiei, tady było aktualna padkreślić heta. A siońnia ŭžo my jość i nikudy nia dzieniemsia ź niezaležnaj Biełarusi, tamu treba zrabić akcent na tym, čaho nam nikoli nia budzie zališnie – voli jak rysy charaktaru, i voli jak svabody j demakratyi.

Treciaja zamiena: varta admovicca ad radka "U kryvavych mukach my adrodzim žyćcio respubliki svajoj", a zamiest jaho dadać "Ułasnaj pracaj my zbudujem svaju Radzimu Biełaruś". Abo "… svaju krainu Biełaruś". Naturalna, što naradžeńnie zaŭsiody adbyvajecca z kryvavymi mukami. I kožnaja žančyna, i kožny ŭvažlivy mužčyna heta moža paćvierdzić, tak što inakšym čynam nichto na hety śviet nie naradžajecca. Tolki ŭ kryvavych mukach. Ale ŭžo potym, jak my naradzilisia, navošta na hetym rabić akcent? My ŭžo svajoj pracaju budujem svoj dom, svoj charaktar, svoj los, tamu j akcent varta było-b zrabić na hetym. "Ułasnaj pracaj my zbudujem…". Jany, Makar Kraŭcoŭ i jahonyja papliečniki, heta rabili: ułasnaj pracaj, ułasnaj tvorčaściu budavali niezaležnuju Biełaruś.

Ja prašu, kab biełaruskija paety-pieśniary, Nił Hilevič, i Ryhor Baradulin, i Ŭładzimir Niaklajeŭ, i ŭsie, chto zdatny, prapanavali svaje versii, i napeŭna, niechta prapanuje jašče lepiej, čym ja, i tady treba budzie sabracca viečam, takoj hramadoj, specyjalna dla hetaha, i spynicca na niejkim varyjancie. I chaj budzie voś taki himn, sučasny, madernovy, ale j historyčny, himn aŭtarstva Makara Kraŭcova j Uładzimira Teraŭskaha. Maja-ž versija z ulikam źmienaŭ vyhladaje takim čynam:

**My vyjdziem ščylnymi radami,**
**Pahonia kliča na prastor!**
**Chaj vola viečna budzie z nami,**
**A gvałtu my damo adpor!**
**Nad rodnym krajem vieje śmieła,**
**Mahutna vieje volny duch.**
**Štandar naš bieł-čyrvona-biełу,**
**Pakryj saboj narodny ruch!**
**Niachaj nas cełу śviet pačuje,**
**Lacicie, pieśni, uharu!**
**Ułasnaj pracaj my zbudujem**
**Svaju Radzimu – Biełaruś!**



*Makar Kraŭcoŭ*



*Uładzimir Teraŭski*

# Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija

*Pačatak. Praciah u nastupnych numaroch*

Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija stvarałasia na pierałomie 1918-1919 hh. Jejnaje ŭźniknieńnie było zakanamiernaj źjavaj u ahulnym rečyščy biełaruskaha nacyjanalna-vyzvalenčaha ruchu pačatku 20 st., hałoŭnym centram jakoha była Vilnia. Tahačasnaje biełaruskaje hramadzka-pałityčnaje žyćcio vyjaviłasia tut u stvareńni asiarodka Biełaruskaj Sacyjałistyčnaj Hramady, uźnikneńni peryjadyčnaha druku, knihavydavieckich tavarystvaŭ, muzyčna-dramatyčnaha hurtka dy inš. Išli pošuki formaŭ aśvietnickaj dziejnaści siarod biełaruskaha žycharstva Vilni j Vilenskaha kraju.

Adnak tolki pačatak Pieršaj suśvietnaj vajny, kałi carskuju akupacyju zamianiła akupacyja niamieckaja, jakaja bolš abyjakava, dy zatoje bolš łiberalna staviłasia da prablemy vyrašeńnia kulturnych zapatrabavańniaŭ nacyjanalnych mienšaściaŭ, u Vilni źjaviłasia mahčymaść adkryć u 1915 h. pieršyja biełaruskija pačatkovyja škoły j nastaŭnickija kursy. Urešcie, naprykancy 1918 h., siarod vilenskaj biełaruskaj hramadzkaści ŭźnikła kankretnaja dumka stvaryć poŭnuju biełaruskuju siaredniuju škołu. Heta była lahičnaja vysnova z užo dasiahnutych vynikaŭ aśvietnaj pracy.

Arhanizacyja j samoje adkryćcio biełaruskaj himnazii ŭ Vilni adbyvałisia ŭ duža niestabilnaj i składanaj pałityčnaj sytuacyi. Farmalnym zakładčykam himnazii byŭ Biełaruski kamitet pomačy paciarpiełym ad vajny. Kamitet damahaŭsia jejnaha adkryćcia z času niamieckaj akupacyi, adnak niemcy dałi dazvoł tolki pierad samym svaim adstupleńniem ź Vilni u śniežni 1918 h. Paśla adychodu niemcaŭ uładu ŭ svaje ruki ŭziała Łitoŭskaja Taryba (Rada). Ad jaje taksama byŭ atrymany dazvoł na adkryćcio biełaruskaj himnazii. Jon byŭ abvieščany aficyjnym zahadam ministra aśviety Taryby Mikałasam Biržyškam, u jakim ad 1 studzienia 1919 h. Biełaruskamu kamitetu dziela adkryćcia himnazii prydzialałasia pamieškańnie ŭ h. zv. Bazyljanskich muroch, dzie ŭžo dahetul isnavała pravasłaŭnaja duchoŭnaja seminaryja. Himnazija mieła być vaśmiklasnaja źmiešanaha typu (dla chłopcaŭ i dziaŭčataŭ) z vykładańniem na biełaruskaj movie.

Tym časam Vilniu zaniała Čyrvonaja Armija, a zatym była abvieščanaja časovaja maryjanetkavaja Łitoŭska-Biełaruskaja Savieckaja Respubłika, h. zv. Łitbieł. Novyja ŭłady nie skasavałi papiaredni dazvoł i takim čynam rehularnyja zaniatki ŭ himnazii pačałisia 1 lutaha 1919 h.

Asnoŭnym inicyjataram stvareńnia VBH byŭ adzin ź siabroŭ Tavarystva pomačy, vilenski archieolah Ivan Łuckievič, popleč ź jakim aktyŭna dziejničała inicyjatyŭnaja supołka ŭ składzie ks. Adama Stankieviča, Leaniły Čarniaŭskaj, Alony Sakałovaj, Julii Menke dy Mikoły Kachanoviča, jaki staŭsia pieršym dyrektaram himnazii.

Pieršy hod pracy ŭ himnazii byŭ najbolš składany. Nie stavała školnaha inventara, biełaruskich padručnikaŭ, nie było jašče školnaj bibłijateki j amal nijakich školnych dapamožnikaŭ. Vučniaŭ było zvyš 340 čał. Pedkalektyŭ składaŭsia z 18 nastaŭnikaŭ, ź jakich nia ŭsie mieli dastatkovuju kvałifikacyju, nia ŭsie na naležnym uzroŭni vałodałi biełaruskaj movaj. Pry skrajnim ubostvie srodkaŭ ciažka było pastavić navučańnie na adpaviednuju vyšyniu, tym bolš, što dzieci byli z samaj roznaj padrychtoŭkaj, da taho ž vučni j ichnyja nastaŭniki viali paŭhałodnaje isnavańnie. I tut treba




adznačyć, što viałikaju dapamohaju himnazii było amal adnačasovaje stvareńnie ŭ Bazyljanskich muroch Biełaruskaha prytułku dla dziaciej-sirotaŭ, inicyjataram jakoha byŭ ks. Adam Stankievič. Dzieci traplałi ŭ himnaziju nia tolki z-pad Vilni, a j z Ašmianščyny, Hrodzienščyny j navat z Navahradčyny. Prytułak nia tolki davaŭ im mahčymaść isnavańnia, ale j stvaraŭ perspektyvu zdabyćcia aśviety ŭ rodnaj movie. Pracavałi tady ŭsie klasy, apača 8-aj, i jašče dva padrychtoŭčyja, dzie ŭ asnoŭnym zajmałisia prytułkovyja dzieci.

Jak zhadvajuć pieršyja vypuskniki himnazii, jana ź pieršych dzion usim składam svajho kiravańnia, navučańnia j vychavańnia vyrazna admiažavałasia ad metadaŭ byłoj carskaj škoły ź jejnymi nacyjanalnymi, sacyjalnymi j relihijnymi barjerami dy stałasia sapraŭdnaj škołaj da ŭsich achvotnych vučycca ŭ joj. Apača biełarusaŭ tut vučyłisia dzieci ruskaj, žydoŭskaj, tatarskaj dy inšych nacyjanalnaściaŭ, adnak nichto ź ich nie adčuvaŭ siabie ludźmi horšaj katagoryi. Adznačajuć jany taksama viałikuju rolu ŭ farmavańni śvietapohladu vučniaŭ zakładčyka himnazii I. Łuckieviča, katory sam uziaŭsia vykładać biełarusaviedu j krajaznaŭstva, robiačy asabłivy nacisk na patryjatyčnaje ŭzhadavańnie.

U pieršyja hady himnazija stojka pieratryvała ŭsie źmieny ŭ pałityčnym stanoviščy Vilni. Paśla niadoŭhaha žyćcia Łitbieła horad zaniałi palaki. Iznoŭ biełaruskaj hramadzkaści Vilni daviałosia zmahacca za prava himnazii na isnavańnie. Zrešty, asnoŭny čas jejnaj dziejnaści prypaŭ mienavita na časy mižvajennaj Polščy. Špiarša himnazija nie była dziaržaŭnaj ustanovaj. Jejnymi kancesijanerami byli raznastajnyja hramadzkija arhanizacyi: spačatku Školnaja Rada ŭ Vilni, paźniej Tavarystva Biełaruskaj Škoły, a z 1928 hodu – Baćkoŭski kamitet himnazii.

*Lavon Łuckievič*

# Віленская беларуская суполка судзіцца зь Мінюстам Літвы за Бяляцкага

**Адна зь Віленскіх беларускіх грамадзкіх арганізацыяў судзіцца зь Міністэрствам юстыцыі Літвы наконт перадачы дадзеных пра рахункі беларускіх праваабаронцаў рэпрэсыўным органам Беларусі.**

22 лютага 2012 г. адбыўся разгляд справы ў Віленскім акруговым адміністрацыйным судзе. Скарга была пададзеная летась, пасля затрыманьня беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Згуртаваньне беларускай моладзі Віленшчыны зьвярнулася ў Міністэрства юстыцыі Літвы з просьбай адклікаць інфармацыю пра банкаўскія рахункі беларускіх праваабаронцаў і грамадзкіх дзеячаў, якую Літва перадала ў Беларусь.

Ліст літоўскага міністэрства юстыцыі, накіраваны ў Беларусь 24 жніўня 2011 г., з просьбай «лічыць перададзеныя зьвесткі аб рахунках А.Бяляцкага і В.Стэфановіча ў банках Літвы несапраўднымі», арганізацыя называе недастатковым крокам, бо гэта не перашкодзіла беларускім уладам асудзіць А.Бяляцкага на падставе зьвестак, атрыманых з Літвы.



На пытаньне пазоўніка ў часе судовага разбору пра тое, ці была афіцыйная пячатка на арыгінале гэтага ліста і на якой мове быў арыгінал, прадстаўнік Мінюсту Літвы Аляксандрас Івановас адказваў аднолькава: «Не магу сказаць».

Гэткім жа быў адказ на пытаньне пазоўніка пра тое, што было зроблена пасьля публічнага абяцаньня міністра юстыцыі Літвы «зрабіць усё магчымае, каб вызваліць Алеся Бяляцкага». Без адказу засталося і пытаньне пазоўніка адносна таго, хто мог перадаваць інфармацыю аб апазыцыянэрах і праваабаронцах беларускім рэпрэсіўным органам, бо стала вядома, што першасная інфармацыя пра рахункі беларускіх дзеячаў у Літве паступала зь Мінюсту ад асобы з ініцыяламі «А.Б» яшчэ год таму.

«Гэта тычыцца ня проста нашай арганізацыі, гэта пытаньне маральнай адказнасьці Літоўскай дзяржавы, якая не зрабіла таго, што магла б зрабіць для вызваленьня беларускіх палітвязьняў. Замест паперы, аб якой было загадзя вядома, што яна ня мае юрыдычнай моцы, павінен быў быць дасланы афіцыйны зварот, які б меў афіцыйную моц, у Вярхоўны суд Беларусі альбо Мінюст РБ, і які б зрабіў па-сапраўднаму немагчымым скарыстаць у судзе нават фармальна тыя зьвесткі аб рахунках, з-за якіх Алеся Бяляцкага асудзілі. Мінюст Літвы мусіць адказаць за тую маральную і матэрыяльную шкоду, якая гэтым была ўчыненая супраць беларускіх дзеячаў, а суд хай ацэніць гэтую шкоду і вызначыць адказнасьць чыноўнікаў Мінюсту», — заявіў кіраўнік Згуртаваньня беларускай моладзі Віленшчыны Валеры Савянкоў пасьля судовага разгляду.

*Тацяна ПОКЛАД, www.svaboda.org*

---

Пасьля судовага працэсу прысутныя гаварылі, што прадстаўнік Мінюсту Літвы ня даў ніводнага сутнаснага адказу на пытаньні пазоўніка і не паказаў суду дакумантаў, на падставе якіх былі перададзеныя зьвесткі пра банкаўскія рахункі беларускіх апазыцыянэраў і гэтым самым ня лічыць магчымым палегчыць лёс асуджанага Алеся Бяляцкага.

Валеры Савянкоў патлумачыў, што ЗБМВ дабівалася ад Міністэрства юстыцыі Літвы, каб яно адклікала перададзеную інфармацыю Беларусі, з той нагоды, што яна юрыдычна несапраўдная.

З тае нагоды, што рашэньне суду, на думку В. Савянкова, будзе адмоўным, ён сам падрыхтуе для Мінюсту Літвы тэкст звароту па справе Алеся Бяляцкага ў Міністэрства юстыцыі й Вярхоўны суд Беларусі. У гэтым лісьце будзе паказана, якія парушэньні былі дапушчаныя беларускім і літоўскім бакамі па перадачы інфармацыі пра рахункі беларускіх праваабаронцаў і на гэтых матывах была-б выказаная канкрэтная просьба ад імя Міністэрства юстыцыі Літвы пра адозву інфармацыі як несапраўднай. Літоўскі Мінюст абяцаў усё магчымае зрабіць для паляпшэньня лёсу Алеся Бяляцкага і таму ён мусіць выправіць свае памылкі і выканаць свой маральны абавязак. Прадстаўнікі Міністэрства юстыцыі Літоўскай Рэспублікі павінны прасіць Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь пра зьняцьце з крымінальнае справы № 11081100188 у адносінах да грамадзяніна РБ А.Бяляцкага перададзеныя лістамі ад 28 сакавіка 2011 г. і ад 6 чэрвеня 2011 г. у Мінюст РБ дакументы пра рух грашовых сродкаў за пэрыяд з 2007 па 2011 гг. па рахунках, зарэгістраваных на імёны грамадзянаў РБ А.Бяляцкага і В.Стэфановіча, як несапраўдныя, юрыдычна непрыдатныя, атрыманыя й перададзеныя незаконна, і якія нельга выкарыстаць як доказ у крымінальнай справе, вярнуць гэтыя дакументы ў Мінюст Літвы, а таксама прасіць старшыню Вярхоўнага суду РБ вынесьці пратэст на прысуд А.Бяляцкаму і, выкарыстоўваючы артыкул 405 УПК РБ, вызваліць А.Бяляцкага.

На пытаньне, чаму кіраўнік ЗБМВ так упэўнены, што дзеяньні Мінюсту Літвы могуць мець посьпех і дапамогуць Алесю Бяляцкаму, ён паведаміў, што беларускаму боку трэба даць юрыдычны шанец і прававыя асновы для вызваленьня Алеся Бяляцкага і іншых палітвязьняў з турмы.

5 сакавіка 2012 г. Віленскі адміністрацыйны суд прыняў рашэньне па скарзе ЗБМВ, якую прадставіў кіраўнік суполкі Валеры Савянкоў. Суд адхінуў скаргу ЗБМВ і адмовіўся абавязаць Мінюст Літвы падрыхтаваць адпаведны зварот у Вярхоўны суд і Мінюст Беларусі па справе праваабаронцы Алеся Бяляцкага.

Як заявіў інфармацыйным каналам Літвы В.Савянкоў, ён абскардзіць гэтае рашэньне і падрыхтуе апэляцыю ў Вышэйшы Адміністрацыйны суд Літвы.

*Павал САЎЧАНКА*

# Алег МІНКІН. АФРАДЫТА

*Л. Ш.*

## 1. Соль

Сьмерць-кастуха мне ў вуха пяяла курну.
Так нядобра было – думаў, неба лізну.
Ды на ўскрайку стала, без сьвятла, безь цяпла,
Паўжывая расьлінка ўзяла зацьвіла.
Бедны ўбор ейны сэрца кальнуў – агарнуў
Мяне жаль, і я з губ кроплю солі зьлізнуў.
– Ты чыя і з чаго, запытацца дазволь?
І адкуль на губах у мяне гэта соль?
– Нічыя... Хтось зьляпіў мяне з жалю начэй...
Ну, а соль на губах – гэта сьлёзы з вачэй.

## 2. Страчаны Рай

Я кажу: зжоўклых дрэў пазалота
нагадала мне Страчаны Рай
гэтак востра, што жыць неахвота!
А яна: памірай...
Я кажу: столькі золата й медзі
сыпануў сёньня час-скупярдзяй
мне пад ногі, што можна памерці!
А яна: памірай...
Я кажу: без пяшчоты так хутка
зьмізарнеў гэты сьвет, што, бадай,
можна ўзвыць і памерці ад смутку!
А яна: памірай...
Я кажу: я адзін тут... дык хто ты,
што ўжо пхнеш мяне за сьветакрай?
А яна: я твая Адзінота –
я кажу "памірай"...

## 3. Салодкая грызь

Я ня кратаю болей пачуцьцяў струну –
Я пішу, як цьвікі забіваю ў труну.
Бо дарэмныя высілкі вуснаў і рук,
Шэпт гарачы і сэрцаў глухі перастук.
Бо ня сыціць пажады салодкая грызь,
Бо што сёньня – "цяпер", будзе заўтра – "калісь".
Бо пачуцьці – відмо, а каханьне – вайна...
– Гэй, вінарка Самота, налі мне віна!

## 4. Бель

Адчыніць прадухі водныя
Злунелы, як сьвет, Ільля,
І зрынуцца бруі халодныя,
І захлынецца зямля.
Спрытнейшыя вымкнуць, адкупяцца
І, сеўшы на яхты-плыты,
Сплывуць будаваць на купінах
Сьвет без такіх, як ты.
Калі-ж завіруюць, запеняцца
Хвалі ў тваім акне,
Твар Афрадыты-тапеліцы
Няземскаю бельлю ўлякне.

## 5. Пакаёўка

Ніхто ўжо ноччу не шапоча:
Ты – недасяжнае красы...
У разьвітальныя часы
Ніхто ўжо не цалуе ў вочы.
Не Афрадытына галоўка
Шчакою на тваім плячы,
А злая Бессань-пакаёўка
Сярдзіта тупае ўначы.

## 6. Дотык

Запомні гэты пах,
Бо там, дзе будзеш потым,
Усё будзе ня так –
Не абальесься потам.
І, тонучы ў вірах
Далёкіх ад эротык,
Запомні гэты пах,
Запомні гэты дотык.

## НА ПАГАРЫ

*(Паводле Эдгара По)*

Зьнекуль напоўз куродым,
Шашу засланіўшы спрэс.
З задушлівага самахода
Спусьціўся я ў Чорны Лес.
Хто-б адказаў, куды я
Так доўга йшоў наўздагад
Цераз пагары тыя,
Той дурманлівы чад?
Згары мне на голаў сеяў
Попел. Дыміўся мох…
За праваднічкай Псыхеяй
Я не пайсьці ня мог.
Да нізкага выйшлі балотца,
Якога ня ўзяў пажар.
Праз дым прабівалася сонца.
У цішы зьвінеў камар.
І хоць ня ведаў, дзе я,
Ды гэта было канцом
Шляху майго, бо Псыхея
Зьбялела, як перад Чыстцом.
Раптам наўкольле ўзрушыў
Крылаў траскотны гук –
Зь неба агністая птушка
Пала на зломаны сук.
Пала на сук сасонцы,
Як зь яснага неба гром,
Пералівала на сонцы
Кожным сваім пяром.
Ад мяне невысока
Села яна насупроць,
Паліла пякучым вокам
Маю сьлемазарную плоць.
Ведаў: яна ўсім чужая,
Маўчыць і гнёздаў ня ўе,
І толькі ў ва мне ажывае
Палкі голас яе.
Ён пранікаў неаднойчы
У цела маё цераз скронь
І разьдзімаў сярод ночы
Знутры іскрысты агонь…
Усё пра дзівосную птушку
Я прыгадаў, акрамя
Ейнай забытай мянушкі,
Сьцёртага часам імя.
Пакуль падбіраў ёй назвы:
Страцім? Багрым? Вісажар?
Птушка, як згустак плязмы,
Зрынула ў чорны гушчар.
За папяловай завеяй
Глуха гула шаша…
Мовіла раптам Псыхея:
"Імя тваёй птушкі – Душа! "

**РУНЬ** Беларуская газэта ў Вільні
Baltarusų laikraštis Vilniuje
Выдаецца з 1997 году
Выходзіць нерэгулярна
Выдавец: Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі"
Адрас рэдакцыі:
LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26
Тэлефоны: (+ 370 5) 261 62 24,
(+ 370) 604 62591
e-mail: hazetarun@gmail.com
**Алег Мінкін** – літаратурны рэдактар
**Сяржук Гаўрыленка** – рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
Наклад **500**
Адрас для допісаў:
**"Рунь", LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26, Lietuva – Lithuania**